*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№24 (1587)
Пятніца, 7 лютага 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень па краіне чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. На большай частцы тэрыторыі снег. Вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/с, уначы на значнай частцы парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне — 0...+1, Брэсце, Віцебску — 0...+1, Гомелі — 0...+2, Магілёве, Мінску — -1...+2.



**ПУЛЬС**

## Ута Цапф: Мы не бачым у Беларусі прагрэсу

"З часу нашай апошняй сустрэчы па многіх аспектах мы не бачым у Беларусі прагрэсу", — заявіла кіраўнік рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ па Беларусі **Ута Цапф** 6 лютага падчас сустрэчы з віцэ-спікерам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Уладзімірам Канаплёвым.

Ута Цапф паведаміла, што падчас гэтага візіту (з 5 па 7 лютага. — **БелаПАН**) групу ПА АБСЕ найперш цікавяць пытанні, звязаныя са становішчам недзяржаўных СМІ, сітуацыя з мясцовымі выбарамі і прафсаюзамі. Паводле слоў Уты Цапф, прафсаюзныя арганізацыі губляюць сваю незалежнасць.

З такімі ацэнкамі не пагадзіўся Уладзімір Канаплёў. Ён заявіў, што "ў адносінах да прагрэсу Беларусь — адна з самых перадавых краін у Еўропе". Як зазначыў віцэ-спікер, недзяржаўныя СМІ маюць у Беларусі дастаткова свабоды, але калі журналісты "пачынаюць нахабна хлусіць, яны атрымліваюць па законе".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Прафсаюз авіядыспетчараў просіць падтрымкі

Беларускі прафсаюз авіядыспетчараў мае намер звярнуцца са скаргай у Міжнародную арганізацыю працы (МАП). Падставай для гэтага, як гаворыцца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным прафаб'яднаннем авіядыспетчараў, стала ўмяшанне ўлад і наймальніка ў дзейнасць арганізацыі з мэтай "раздраблення і ліквідацыі незалежнага прафсаюза, які адстойвае свой пункт гледжання".

За апошнія месяцы, гаворыцца ў прэс-рэлізе, на членаў прафсаюза авіядыспетчараў — работнікаў прадпрыемства "Белаэранавігацыя" аказваецца "беспрэцэдэнтны ціск" — "у персанальных гутарках наймальнік "настойліва рэкамендуе" выйсці з прафсаюзнай арганізацыі". Тых, хто не згодны пакінуць шэрагі прафсаюза, з бестэрміновага працоўнага дагавора пераводзяць на кантракт, а потым звальняюць.

Беларускі прафсаюз авіядыспетчараў звяртаецца да калег па прафсаюзным руху Беларусі, міжнародных арганізацый "з заклікам аб салідарнай падтрымцы".

*(Працяг тэмы — на 2-й старонцы.)*

**Ігар СТАНКЕВІЧ.**

## Усебеларускі сход інтэлігенцыі перанесены на 16 сакавіка

Усебеларускі сход інтэлігенцыі перанесены з 16 лютага на 16 сакавіка. Такое рашэнне было прынята на пасяджэнні рабочай групы аргкамітэта па падрыхтоўцы форуму.

Як паведаміў БелаПАН сустаршыня аргкамітэта, кінарэжысёр і педагог Уладзімір Колас, кіраўніцтва Палаца Рэспублікі адмовіла ў памяшканні для правядзення Усебеларускага сходу інтэлігенцыі. У лісце на імя аргкамітэта было заяўлена, што 16 лютага ў зале Палаца Рэспублікі пройдзе спектакль творчага аб'яднання "Віртуозы сцэны", з якім раней ужо было заключана адпаведнае пагадненне.

Уладзімір Колас таксама зазначыў, што рашэнне аб пераносе сходу абумоўлена тым, што працэс вылучэння дэлегатаў на форум адбываецца не так хутка, як таго жадалі арганізатары.

## Будзе сваё жалеза

Сёлета геолагам давядзецца вызначыць мэтазгоднасць дэталёвай разведкі Аколаўскага жалезаруднага радовішча ў Стаўбцоўскім раёне.

Як паведаміў БелаПАН галоўны геолаг па цвёрдых карысных выкапнях рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Белгеалогія" Пётр Хоміч, падрыхтоўка радовішча да прамысловага асваення вядзецца з 1995 года. За гэты час была праведзена яго папярэдняя разведка, па выніках якой устаноўлены ўмовы залягання рудных цел.

Да 2007 года спецыялісты будуць валодаць усімі неабходнымі матэрыяламі для праектавання рудніка. Ён будзе ўключаць шахту магутнасцю 9 мільёнаў тон руды, з якой на абагачальным камбінаце магчыма будзе атрымліваць прыкладна 2 мільёны тон металізаваных акатышаў, што ўтрымліваюць каля 87 працэнтаў жалеза.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Выдаюць расійскія міграцыйныя карты

З 15 лютага адначасова ў Расіі і Беларусі пачнецца выдача грамадзянам трэціх краін расійскіх міграцыйных карт.

На дзяржаўнай мяжы Беларусі выдаваць міграцыйныя карты іншаземцам, якія перамяшчаюцца цераз нашу краіну транзітам, будуць памежныя войскі ў амаль 60 пунктах пропуску цераз заходнюю мяжу саюзнай дзяржавы, унутры краіны — органы ўнутраных спраў.

Расія ў сваю чаргу ўзяла на сябе абавязацельствы кантраляваць праезд іншаземцаў цераз паўднёвыя і ўсходнія межы на шляху іх следавання ў Беларусь.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Грып прыйдзе ў сярэдзіне лютага

Эпідэмія грыпу ў Мінску чакаецца на працягу найбліжэйшых двух тыдняў. Такое меркаванне выказаў галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Мінска Фёдар Германовіч.

У апошні тыдзень студзеня было зазначана перавышэнне ўзроўню захворванняў на 10 працэнтаў. Пры гэтым паказчык звароту па медыцынскую дапамогу склаў каля 86 выпадкаў на 100 тысяч насельніцтва. Аднак перавышэнне эпідэмічнага парогу зазначана не было. У цяперашні час узровень сезоннага захворвання перавышаны ў два разы.

**Вольга АСІПЕНКА.**

**ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ**

# Піўная вайна

Сур'ёзны абарот набываюць прэтэнзіі расійскіх півавараў да беларускіх улад.

Як вядома, Савет міністраў Беларусі прыняў захады па абароне свайго рынку ад вялікага наплыву расійскага піва. Гэта выклікала незадаволенасць вытворцаў пеністага напітку ўсходняй суседкі. Днямі іх падтрымаў і расійскі ўрад.

Вось што перадае агенцтва БелаПАН:

***"Урад Расійскай Федэрацыі накіраваў ліст за подпісам віцэ-прэм'ера Віктара Хрысценкі на адрас прэм'ер-міністра Беларусі Генадзя Навіцкага з прапановай прыняць "неабходныя меры па зняцці абмежаванняў на ўвоз на тэрыторыю Беларусі расійскага піва". Аб гэтым паведамляецца ў распаўсюджанай заяве Саюза расійскіх піваваравў.***

***У лісце выказана прапанова адмяніць сістэму збірання падатку за ўвозімую піўную тару пад абавязацельствы яе вывазу, існуючую з 2001 года. Паводле меркавання расійскіх піваваравў, гэтыя меры беларускіх улад "з'яўляюцца парушэннем двухбаковых дамоўленасцей", у прыватнасці, дагавора "Аб Мытным саюзе" і дагавора "Аб адзінай эканамічнай прасторы", згодна з якім абмежаванні на імпарт тавараў не могуць быць уведзены ў аднабаковым парадку.***

***Нагадаем, што ў адпаведнасці з пастановай Савета міністраў Беларусі "Аб упарадкаванні ўвозу і абароту піва саладавага на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь" ад 23 жніўня 2002 года, імпарцёры піва абавязаны атрымаць ліцэнзію на кожную партыю тавару, а таксама маркіраваць увозімае піва акцызнымі маркамі. "Па сутнасці, беларускі бок у аднабаковым парадку прыняў новую працэдуру ўвозу піва на тэрыторыю Беларусі, якая ўносіць сур'ёзныя абмежавальныя меры пры пастаўках расійскага піва", — падкрэсліваецца ў заяве. У дакуменце таксама зазначана, што Саюз расійскіх піваваравў шматразова звяртаўся ва ўрад Расіі з просьбай увесці абмежаванні ў адносінах да паставак беларускіх тавараў, у тым ліку і піва, на тэрыторыю Расіі.***

***Зазначана, што ў выпадку невыканання беларускімі ўладамі прапанаваных урадам Расіі мер па ліквідацыі неабгрунтаваных абмежаванняў на ўвоз расійскага піва "ліст не будзе з'яўляцца канчатковым крокам урада Расіі па абароне інтарэсаў айчынных вытворцаў піва".***

Як бачым, урад Расіі сур'ёзна папярэджвае ўлады Беларусі і абяцае, што адным напамінкам справа не закончыцца, калі Мінск не адменіць свае абмежаванні.

Такім чынам урад нашай краіны трапіў у складаную сітуацыю. З аднаго боку, трэба абараняць свой рынак ад вялізнага наплыву піва з Усходу, што прыводзіць да выцяснення айчыннага напітку і недабораў у бюджэт, які мялее, а з другога — гэта можа падсапсаваць адносіны з Расіяй і выклікаць меры ў адказ, што вельмі непажадана. Наша піўная вытворчасць мае вялікую патрэбу ў інвестыцыях, якія можна атрымаць у асноўным толькі з Усходу.

У сувязі з лістом з Масквы высвятляецца таксама, што шэраг падпісаных дамоў з Расіяй не адпавядае інтарэсам нашай краіны. Заўважым, што ў лісце з Масквы і заяве Саюза расійскіх піваваравў гаворыцца аб тым, што беларускія ўлады парушаюць дамовы "Аб мытным саюзе" і "Аб адзінай эканамічнай прасторы". Трэба ж было думаць, што падпісвалі.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Зварот да выбаршчыкаў

2 сакавіка ў нашай краіне адбудуцца выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Падчас агітацыйнай кампаніі, акрамя іншага, варта звярнуць увагу і на тое, наколькі кандыдат у дэпутаты адстойвае нацыянальныя інтарэсы сваёй краіны, як ставіцца да роднай культуры і мовы — асноўных чыннікаў нацыі і незалежнай дзяржавы.

Таварыства беларускай мовы заклікае падтрымаць тых кандыдатаў, якія ведаюць і шануюць беларускую мову, карыстаюцца ёю і спрыяюць яе пашырэнню. Менавіта ад гэтага залежыць, наколькі ён будзе бараніць інтарэсы народа — носьбіта духоўнага скарбу, інтарэсы незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

**Рада Таварыства беларускай мовы.**

## Полацк усё яшчэ разлічваецца за «Дажынкі»

Нядобрым словам успамінаюць пра мінулагоднія "Дажынкі" работнікі камунальнай гаспадаркі Полацка. Іх разлік на тое, што рэспубліканскі сельгасфэст дапаможа вырашыць праблемы добраўпарадкавання старажытнага горада, спраўдзіліся толькі часткова.

Пэўная карысць ад свята, безумоўна, была. Атрыманыя з казны грошы дазволілі забрукаваць і заасфальтаваць цэнтральныя вуліцы і плошчы, пафарбаваць фасады некаторых дамоў, абнавіць грамадскія месцы. Аднак бюджэтных укладанняў было недастаткова, каб давесці Полацк да ажуру.

Гарадскія ўлады залезлі ў даўгі, каб зрабіць як мага больш у сэнсе марафету. У выніку гарадская казна да сённяшняга дня няпоўнасцю разлічылася са шматлікімі крэдыторамі, а таму гарвыканкаму даводзіцца ламаць галаву, дзе ўзяць каля чатырох мільярдаў рублёў, каб пакрыць запазыку.

Немагчыма, да прыкладу, выдаткаваць 240 мільёнаў рублёў на бягучы рамонт жылля, бо амаль палову гэтай сумы трэба "адшпіліць" на пакрыццё "дажынкаўскіх" даўгоў. Тая ж "фестывальная" запазыка не дае магчымасці давесці да канца будаўніцтва маста праз рэчку Палату, завяршыць рэканструкцыю набярэжнай Заходняй Дзвіны, добраўпарадкаваць аўтамабільныя ўезды ў горад.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**АНОНС**

## Наш мир в XXI веке

### *Как поделить общий пирог*

Подсчитано, что за прошедшие 10 000 лет люди не воевали только 300 лет. Человечество еще не успело забыть ужасы Второй мировой войны, а на горизонте уже маячит призрак третьей. Из-за чего возможен очередной кровавый спор? Знаками чего служат трагедии, случившиеся в Нью-Йорке и в московском театре "Норд-Ост"? В чем заключается геополитическая интрига войны, которую, кажется, вот-вот начнут американские войска в Ираке? В каком направлении будет развиваться мировой порядок в XXI веке? Какая перспектива ожидает наш белорусский мир?

Об этом и многом другом рассуждает известный политолог, доктор философских наук **Вячеслав Петрович Оргиш**. Его материал "Народная воля" начинает печатать на следующей неделе.

## Ліквідавалі падпольны гарэлачны завод

У пасёлку Ратамка Мінскага раёна ў катэджы па вуліцы Бярозавая, што належыць 51-гадоваму беспрацоўнаму, супрацоўнікамі міліцыі былі затрыманыя 11 грамадзян.

Затрыманыя займаліся незаконным вырабам гарэлкі і падробкай суправаджальных дакументаў. У катэджы супрацоўнікі міліцыі знайшлі і канфіскавалі 2000 літраў этылавага спірту, 5000 бутэлек гарэлкі, 9000 пустых бутэлек, 600.000 коркаў, 360.000 этыкетак для розных гатункаў гарэлкі РУП "Крышталь", 10.000 акцызных марак Рэспублікі Беларусь, паточную лінію разліву гарэлкі, 4 "стаканы" для закаткі коркаў, 3 "стаканы" для наклейвання этыкетак, а таксама пячаткі і штампы розных суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Тром банкам забаранілі размяшчаць уклады ад фізічных асоб

У Беларусі банкі, якія прыцягваюць сродкі насельніцтва, павінны мець уласны капітал памерам не менш за 10 мільёнаў еўра.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка, за невыкананне эканамічнага нарматыву мінімальнага памеру ўласных сродкаў прыпынена дзейнічанне ліцэнзіі на прыцягненне ва ўклады сродкаў фізічных асоб на тэрмін з 1 лютага па 30 красавіка 2003 года у ААТ Банк "Залаты талер", ААТ "Банк "Поіск" і ЗАТ "МінскКомплексБанк".

**Аляксей АРЭШКА.**

**КРИК ДУШИ**

# Никому не отдам свою кровиночку!

Так сложилось, что волею судьбы я стала опекуном своего внука почти с самого его рождения. Не буду вдаваться в подробности — они не слишком веселые. Скажу лишь, что, уберегая малыша от детдома и интерната, стараясь изо всех сил заменить ему мать и отца, я столкнулась с такими проблемами и унижениями, что никак уразуметь не могу: за что, по какому праву все это?

Дело в том, что у нас в стране опекунство — дело сугубо бесплатное. И тому, кто спасает жизнь ребенку, растит и воспитывает его, экономя государству средства на содержание казенных детских учреждений, оказывается, ничего не положено... Как хочешь, так и живи, хоть голодай, хоть раздетым ходи вместе с дитятей.

Раньше я еще кое-как справлялась, а теперь, когда мальчику уже 12, одеть и прокормить его, обеспечить хотя бы самым необходимым для учебы — ой-ой-ой! Мне бы радоваться — вон какой внучек растет, а вместо этого — тревога: как продержаться?

Куда ни обращаюсь за помощью, слышу от местных чиновников: "А вы отдайте внука в интернат, вот и облегчение будет". Ничего себе совет, ничего себе "облегчение". Словно кровиночка моя — манекен или кукла, выбросил — и дело с концом. Не желаю этим "советчикам" оказаться на моем месте, не спать, как я, по ночам от тревожных дум и забот. От горькой обиды: кто же это такие законы придумывает, чтобы люди мучились, а будущий гражданин, труженик, защитник страны с малолетства был обречен на жизнь в скудости и даже нищете. А это в будущем скажется на его здоровье и судьбе.

Больно, очень больно, что не только у меня такое положение трудное... Даже в семьях, где мать и отец имеют одного ребенка, условия довольно стесненные: на мизерные зарплаты не разгонишься, приходится во многом отказывать не только себе, но и детям. Вот и боятся рожать молодые матери, и вымирает народ! А кто еще дышит, то живет уже без надежды...

**Мария Семеновна ЦЫБУЛЬСКАЯ,**
**жительница д.Квасовка Гродненского района.**

*Владимир НИСТЮК:*

# Лукашенко изобретет что-нибудь посложнее хозяйственного мыла

*В последнее время главная тема политических разговоров — останется ли Александр Лукашенко президентом и после 2006 года? Политическая элита и простые белорусы на кухнях обсуждают перспективу референдума, что позволил бы одному человеку руководить страной более двух сроков. В виду имеется, понятное дело, нынешний официальный лидер. Но кто сказал, что плебисцит — это единственный вариант развития событий, который прорабатывается властными стратегами?*

*Пытается угадать и подготовиться к тому, как поведет себя власть, и белорусская оппозиция. Заместитель председателя Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада)* ***Владимир НИСТЮК*** *говорит о еще четырех гипотетических вариантах продолжения политической карьеры Александра Лукашенко.*

— Референдум — это узкий участок на возможном поле маневров власти и единственный способ продлить президентство Лукашенко в соответствии с Конституцией 1996 года. Там четко сказано, что четыре ее главы, которые касаются власти, в том числе и о президентских сроках, могут быть изменены только посредством референдума. Здесь все просто, как хозяйственное мыло.

**— Ну а если Кремль не позволит белорусскому президенту создать прецедент с третьим сроком?**

— Знаете, вообще, на мой взгляд, слишком много все вокруг о референдуме говорят, слишком открыто этот вопрос муссируется. Это стандартный вариант, а Лукашенко — мастер нестандартных ходов.

Первый возможный вариант развития событий: Александр Лукашенко назначает преемника. То есть это уже не продление его срока пребывания у власти, а повтор российского сценария.

**— Это когда Ельцин оставил после себя Путина?**

— Да, находится белорусский Путин, и ему передаются все властные полномочия. Здесь цель у Лукашенко — просто застраховаться от неприятностей после ухода с поста. Определенные шаги в этом направлении уже делаются. Сейчас после Александра Лукашенко главной должностной фигурой в стране является премьер-министр Геннадий Новицкий. Но недавно незаметно произошла ротация среди вице-премьеров. Андрей Кобяков стал министром экономики, а на пост вице-премьера пришел Сергей Сидорский. Как хороший промышленник, как человек, знающий реальную экономику, он вполне может стать и премьер-министром. Председателей облисполкомов, погрязших в разных проблемах, брать в расчет в этом смысле не стоит. Но самое главное, Сидорский очень предан Лукашенко.

После согласования с определенными деловыми и политическими кругами Москвы кандидатуру Сидорского вполне могут выдвинуть на президентских выборах как преемника Александра Григорьевича. И, пустив в ход административный ресурс плюс деньги российских олигархов, его элементарно делают президентом Беларуси.

**— А какие-то еще политические фигуры могут реально котироваться в качестве кандидатов?**

— В политические элиты вброшена информация, что Москва интересуется, кроме Сергея Сидорского, еще кандидатурами председателя Совета республики Александра Войтовича и председателя Мингорисполкома Михаила Павлова. Это — из нынешней номенклатуры. Также в Кремле якобы лояльно смотрят на бывших во власти, а сейчас находящихся в оппозиции Михаила Маринича и Леонида Синицына. Над вариантом с преемником Александр Лукашенко будет думать очень серьезно. Номенклатура ведь может заставить такого преемника отказаться от обязательств перед прежним патроном. Лукашенко выберет самый безопасный путь с наиболее верными гарантиями.

Еще в аналитических структурах власти — как Беларуси, так и России — прорабатывается вариант продления власти на манер губернатора Самарской области Константина Титова. Он за несколько месяцев до очередных выборов ушел в отставку, а потом вышел на выборы — и победил. В подобном случае получается, что президент не добывает до конца второго срока. Допустим, месяцев семь. Здесь также появляется преемник, но на время. Зная недоверие Александра Григорьевича к окружающим и его невероятно развитое чувство самосохранения, это должен быть очень преданный ему человек. Например, тот же Сидорский.

Палата представителей как послушный орган все это благословляет и говорит, мол, давайте не будем проводить досрочные выборы, ведь не за горами плановые. Проходит время, за которое исчезают некоторые политические, экономические и нравственные проблемы. Александр Лукашенко вновь появляется в белых одеждах и баллотируется на третий срок, как на второй. Кто может рассудить юридические споры, законно ли это? Конституционный суд. А как он благословляет все действия власти, мы прекрасно знаем.

**— Что еще интересного могут придумать в команде президента?**

— Третий вариант. Процедура оставления президента на посту после двух сроков может быть проведена через другие органы власти. Например, Палата представителей принимает какой-нибудь конституционный акт, который может быть назван, скажем, "О Президенте Республики Беларусь", в котором та или иная статья Конституции трактуется так, как это удобно Лукашенко. В общем, для него находится юридическая лазейка остаться у власти сверх срока. Кто-нибудь провоцирует обращение в Конституционный суд, а тот все благополучно визирует. Ведь такие структуры, как Палата представителей, не просто так создавались. Они ждут своего часа. Ружье, висящее на стене, когда-нибудь выстрелит. Вот только в каком месте спектакля?

Причем эти решения могут быть признаны и мировым, и российским политическим истеблишментом, если Палата представителей легитимизируется в международных организациях, чего так добиваются белорусские власти. Не исключено, что это произойдет уже в феврале на зимней сессии ПАСЕ.

Четвертый вариант: Александр Лукашенко в силу того же чувства самосохранения даст согласие на какую-то отступную. Скажем, пойдет работать в структуры Союзного государства. Думаю, сейчас в проекте Конституционного акта этого государства готовятся запасные аэродромы — на всякий случай — для Александра Лукашенко. Есть ситуации, когда политик загоняется в угол и ему оставляется очень узкий коридор.

Но, думаю, в любом случае Лукашенко придется изменить свой имидж, сделать уже в этом году какие-то шаги по пути рыночных реформ, демократизации политической жизни и ослаблению давления на СМИ. А начнется все с того, с чего всегда начинались большие политические кампании Лукашенко — со "сдачи на мясо". Лишится должности не один областной председатель. Наверняка уйдет нынешний премьер, будут новые "посадки" в директорском корпусе. Нужно принести свежие жертвы электорату. Отдать на заклание ряд чиновников как якобы главных виновников того, что народ так плохо живет.

Так будет готовиться база под какое-то серьезное решение касательно дальнейшей политической судьбы Александра Лукашенко.

**Беседовал**
**Кирилл ПОЗНЯК.**

*("Белорусские новости".)*

